

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

***«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»***

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 412 Красавік 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## САКАВІКОВЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ

*24 сакавіка 1994 г.*

Дарагія Сябры!
Паважаныя Суродзічы на Бацькаўшчыне і на Чужыне!

У імя вольнай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе Вас зь 76-мі ўгодкамі абвешчаньня Трэцяй Устаўной Граматай Рады БНР незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Ідэалы Акту 25 Сакавіка, сфармуляваныя ў Другой Устаўной Грамаце Рады БНР 9 сакавіка 1918 году — «вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў: бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня» — гэтыя правы чалавека, застаюцца актуальнай часткай праграмы сучаснага адраджэньня на Беларусі. Хоць гэтыя правы і свабоды запісаныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, яны гвалтуюцца аўтакратычным дзяржаўным апаратам, намэнклятурным чыноўніцтвам.

Людзі ўчарашняга дня, чужыя дэмакратычным прынцыпам і варожыя справе нацыянальнага адраджэньня Беларусі, імкнуцца задушыць дух свабоды ў беларускім грамадзтве, стрымаць аднаўленьне культурных вартасьцяў, згвалціць і скампрамэтаваць ідэю эканамічных рэформаў. Сувэрэнітэт і незалежнасьць дзяржавы сталіся аб'ектам гандлю паміж недэмакратычным урадам Рэспублікі Беларусь і апэратарамі расейскай імпэрыі. Вялікая гістарычная дата, Дзень 25 Сакавіка, ігнаруецца афіцыйнымі ўладамі на Беларусі. Правы чалавека не дачакаліся яшчэ свайго дня: намэнклятурнае чыноўніцтва, міліцыянты, пракуратура і нават войска ўцягнутыя ў ганебную акцыю запалохваньня і перасьледу грамадзянаў, здушваньня свабоды, перашкаджаньня збору й пашырэньню інфармацыі.

Намэнклятура, якая служыла папярэдняму рэжыму, зацiскае гістарычную праўду пра злачынства гэнага рэжыму, у тым ліку пра акты генацыду, як аб гэтым сьветчыць нежаданьне ўладаў выявіць і асудзіць спраўцаў масавых растрэлаў мірнага жыхарства ў Курапатах.

У сувязі з угодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня заклікае сваіх сяброў і ўсіх сумленных людзей падтрымваць справу ўжыцьцяўленьня ідэалаў БНР, спрыяць дэмакратызацыі Рэспублікі Беларусь, мацаваньню ейнага матарыяльнага і культурнага дабрабыту, далейшаму разбудоўваньню дэмакратычнай і незалежнай Беларускай Дзяржавы.

**Антон Шукелайць,**
**Старшыня**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
### ПРЭЗЫДЫЮМ

*Сакавік 1994 г.*

Шаноўная Сьвяточная Грамада!
Дарагія Суродзічы!

Вітаю Вас з 76-мі Ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дзень 25-га Сакавіка зьяўляецца й надалей нашай найважнейшай гістарычнай датай, таму традыцыйна штагоду сьвяткуем наш нацыянальны «Вялікдзень».

Год таму назад мне пашчасьціла ўрачыста сьвяткаваць юбілейныя 75-ыя ўгодкі 25-га Сакавіка ў Менску, дзе меў нагоду на ўрачыстай акадэміі прывітаць прысутных, у тым ліку шаноўнага Старшыню Вярхоўнай Рады РБ, сп. Станіслава Шушкевіча.

Ня ведаю, як у гэтым годзе адбудзецца сьвяткаваньне на Бацькаўшчыне, але прыпушчаю, што бяз удзелу прадстаўнікоў Ураду. Таму, што ўлада на Беларусі знаходзіцца ў руках антыдэмакратычнага, прокамуністычнага й прорасейскага рэжыму.

Але будзьма аптымістамі зь вераю, што гэты антыбеларускі рэжым ня стрымае Нацыянальнага Адраджэньня нашага Народу і з нашай непаслабна пасільнай дапамогай, маральнай і матэрыяльнай, Ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі пераможа.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Язэп Сажыч,**
**Старшыня Рады БНР**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу

А ўчора пахавана мяне з Табою, Хрысьце. Сёньня, калі Ты ўваскрос, і я ўстаю з Табою. Мяне ўкрыжавана з Табою ўчора. Сам, Ратаўніку, праслаў мяне з Сабою ў валадарстве Тваім. (Вялікодны канон, песьня 3)

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры! Хрыстос Уваскрос!

Ці ёсьць іншыя словы, каб былі гэтак блізкія й пацяшаючыя нас, беларусаў? І ці ёсьць часіна ў годзе, каб можна было мець такую меру спадзяваньня на вечнае жыцьцё, як на Вялікдзень? У падзеі крыжовай сьмерці і ўваскрасеньня зь мёртвых Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста. Бо ж сёньня мы прамаўляем словамі малітвы: «Ты, Госпадзе, што на крыжы пакутаваў і сьмерць зьнішчыў і ўваскрос зь мёртвых, супакой нашае жыцьцё, бо Ты адзіны Ўсемагутны». Перамога Ісуса Хрыста над сьмерцяй, дарагія мае, дае і нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, хварысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы Ягонае ў Ягоным уваскрасеньні. Гэта сіла самаіснаваньня, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (Ян 5:4). Сёньня сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы адзначаем падзеі ў нашай сьвятой Беларусі, што закранаюць кожнага з нас беларусаў. Сёньня сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, мы жывем у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асабліва трэба мець прад вачыма жыцьцё сьвятых, і браць іх за прыклад.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да Карынцянаў кажа: «Дык вось, ачысьціце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старой закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі чысьціні і праўды» (Кар. 5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста.

Нам, беларусам, аніяк ня можна забывацца таго, што нашая Праваслаўная Царква ў Беларусі яшчэ не дачакалася свабоды й пашаны. У царкоўных выданьнях у Беларусі вядзецца нагонка на беларускую мову. У загалоўках пішуць «БЕЛАРУСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ГАЗЭТА», але да вернікаў прамаўляюць чужой мовай. І так беларуская мова не допускаецца да ўжытку ў Праваслаўнай Царкве ў Беларусі — мова, якая амаль праз чатыры сталецьці была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім!

Любасныя браты й сёстры, той, хто супраць роднае мовы ў сьвятынях, моцна грашыць супраць Духа Сьвятога. Такія людзі пярэчаць Сьвятому Пісьму, бо ж у Сьв. Пісьме сказана: «І напоўніліся ўсе (апосталы) Духам Сьвятым і пачалі гаварыць іншымі мовамі, як той Дух даваў ім прамаўляць» (Дзеі 2:4).

Вось жа, дарагія мае, будзем напаўняцца Духам Сьвятым, будзем верыць Госпаду й Ратаўніку нашаму Ісусу Хрысту. Ён пераадолеў зло, цемру і стаўся сьвятлом. Будзем жа і мы здабываць сьвятло веры. Але ад нас патрабуецца шмат вытрываласьці й намаганьняў, каб нашая родная мова суцэльна вярнулася да нас ды сталася мовай багаслужбаў, мовай нашае лучнасьці з Усявышнім.

Няхай жа кожны з нас зь вераю і ў поўным пераканьні непаслабна дзейнічае, каб нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах уся сьвятая Беларусь з удзячнасьцю Богу славіла уваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднаго абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах жацьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

*Вялікдзень, 1994*
*Таронта, Канада*

**Мітрапаліт МІКАЛАЙ**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 25-ГА САКАВІКА

Мінуў дзень вялікага народнага сьвята. Хіба як ніколі на працягу апошніх 76 гадоў, дзень гэты мае ўжо не сымбалічнае, але зусім рэальнае значэньне. Да часу перабудовы, а асабліва да абвешчаньня гэтак званай сувэрэннасьці Рэспублікі Беларусь, нашы мэты былі выразна акрэсьленыя — змагацца супраць бальшавіцкага акупанта нашай бацькаўшчыны. Мы ўсе былі згодныя з гэтай мэтай, і ў сілу нашых магчымасьцяў трымалі высака сьцяг БНР, інфармавалі заходні сьвет аб жудаснай рэчаіснасьці ў Беларусі.

Настаў дзень 27-га ліпеня 1990 году. Вярхоўны Савет Беларусі абвяшчае рэспубліку сувэрэннай дзяржавай. Цяжка было паверыць, што камуністычная намэнклятура, варожая ідэі незалежнасьці, раптам сталася патрыятычнай. Бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня, якую яны таптал́і на працягу 72 гадоў ды за якія людзі гінулі ў Курапатах і далёкай Сібіры, прызнаныя зноў сымбалямі новай дзяржавы, беларуская мова — мовай дзяржаўнай. Цяжка паверыць. Чым кіравалася камуністычная намэнклятура? Хіба-ж ня любоўю да гэтых сымбаляў? Ці яна пайшла на гэты крок дзеля любові да беларускага народу, або ў моц нейкім цудам набытага патрыятызму? Пэўна-ж, не. Камуністы хацелі адгарадзіцца ад дэмакратычных подыхаў у Маскве, застаючыся адначасна верныя ленінскаму лёзунгу «крок назад, два наперад».

Апошнія зьмены на Беларусі гавораць самі за сябе. Запраўднае аблічча Вярхоўнага Савету праявілася. Няма ніякіх сумлеваў, што камуністы перанялі поўнасьцю ўладу. Сродкі інфармацыі ў іхных руках. Назад да Масквы!

«A bas l'independance! Далоў незалежнасьць!» крычэлі афрыканцы былога бэльгійскага Конга год пасьля абвешчаньня незалежнасьці. «Нам было лепш пад уладаю Бэльгіі».

Тут будзе на месцы зацытаваць верш Алеся Крыгі, апублікаваны ў «Выбары», газэце дэмакратычных плыняў Прыдзьвінска-Прыдняпроўскага краю, з 21 сьнежня 1993 году.

**Здрада**

Навокал ганебная здрада,
Гандлююць Табой, Беларусь
Гандлюе Вярхоўная Рада,
Гандлюе манкуртаў хаўрус.
Хто хлеб прадае, хто дзяржаву
Мяшкамі ў Расію вязуць,
На гэрб наш — Пагоні выяву,
На сьцяг наш сьвяшчэнны плююць.
І з бруднымі ботамі лезуць
У мову крыніцу маю,
І рэжуць, і рэжуць, і рэжуць
На часткі старонку сваю.

Цяпер, як ніколі, наш абавязак — падняць вышэй сьцяг БНР. Настаў час перастаць таптацца, як некалі пісаў Антон Адамовіч, на Акце 25 Сакавіка, а йсьці наперад. Час рэарганізаваць Раду БНР. Рада БНР павінна стацца прадстаўніцтвам усіх беларусоў што жывуць як на эміграцыі, гэтак і ў Беларусі, Польшчы, Летуве ды ўсюды. Трэба арганізаваць сэктары Рады БНР. Мы павінны адмаладзіць Раду ды зрабіць яе больш прадстаўнічай. Я прашу тых, хто чытае «Беларуса», адгукнуцца на мой заклік ды выказаць свае думкі адносна гэтага праекту. Прысылайце Вашыя адказы на рэдакцыю «Беларуса». Я прапаную наступную сэсію Рады БНР склікаць, калі не ў Беларусі, дык у Вільні ці Беластоку, каб даць магчымасьць прыняць удзел усім тым, каму падарожжа ў ЗША або Канаду будзе не па сілах. Дазвольце спадзявацца, што пачуем Ваш погляд на гэтую прапанову. Пара адчыніць вочы, пара скінуць ружовыя акуляры ды глянуць рэчаіснасьці ў твар.

**Б. Рагуля,**
**Заступнік Старшыні**
**Рады БНР**

# УЗРОВЕНЬ ЭКАНАМІЧНАГА РАЗЬВІЦЬЦЯ

**Беларусь, Расея, Украіна**

Маскоўскі тыднёвік «Аргументы и факты» (№ 4, 1994) апублікаваў дадзеныя аб параўнальным эканамічным разьвіцьці рэспублік СНД у 1993 годзе.

| | Нацыянальны прыбытак на душу жыхарства | | Прадукцыйнасьць працы | |
|---|---|---|---|---|
| | *тыс. руб.* | *працэнт да сярэдн. пақазьніка па СНД* | *тыс. руб.* | *працэнт да сярэдн. паказьніка па СНД* |
| Беларусь | 1000 | 125,0 | 2900 | 113,5 |
| Расея | 900 | 112,5 | 2750 | 108,0 |
| Украіна | 765 | 95,5 | 2440 | 96,0 |

Сярэднямесячнае спажываньне тавараў і паслугаў у разьліку на душу жыхарства ў 1993 годзе

| | *тыс. руб.* | *прац. да сярэдн. паказьніка па СНД* |
|---|---|---|
| Беларусь | 60,0 | 129,0 |
| Расея | 55,0 | 118,0 |
| Украіна | 47,5 | 102,0 |

# САКАВІКОВЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ

Office of the Mayor
CITY OF NEW YORK



Proclamation

WHEREAS: THE BELARUSAN COMMUNITY IS OBSERVING THE 76TH ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE BELARUS DEMOCRATIC REPUBLIC ON MARCH 25, 1918; AND

WHEREAS: BETWEEN 1890 AND 1920 MORE THAN 500,000 BELARUSANS EMIGRATED TO THE UNITED STATES, LEAVING THEIR BEAUTIFUL HOMELAND TO SEEK NEW LIVES HERE. THEIR FIRST ORGANIZATION WAS FORMED IN 1920 ON PARK ROW ACROSS FROM CITY HALL PARK. AFTER WORLD WAR II ABOUT 50,000 ADDITIONAL IMMIGRANTS ARRIVED HERE, FLEEING OPPRESSION. TODAY MANY STUDENTS, PROFESSORS AND FUTURE LEADERS FROM BELARUS COME HERE TO STUDY TECHNOLOGY, ECONOMICS, GOVERNMENT AND OTHER SUBJECTS THAT WILL HELP THEM CONTRIBUTE TO THEIR OWN COUNTRY, WHILE MANY NEW YORKERS TRAVEL TO BELARUS TO OFFER ASSISTANCE AND ADVICE; AND

WHEREAS: THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY CONTRIBUTES TO THE VITALITY AND DIVERSITY OF OUR CITY AND SHARES ITS RICH HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS. IT PRESERVES THE TREASURES OF THE BELARUSAN LANGUAGE AND TRADITION, AND CELEBRATES THE NATION'S INDEPENDENCE, WHICH WAS REAFFIRMED ON JULY 27, 1990 -- THE DAY OF SOVEREIGNTY; AND

WHEREAS: TODAY WE ESPECIALLY REMEMBER THAT BELARUS WAS DEVASTATED BY THE CHERNOBYL NUCLEAR DISASTER. SEVENTY PERCENT OF THE FALLOUT LANDED ON BELARUS, CONTAMINATING ONE-THIRD OF THE COUNTRY AND AFFECTING 2.2 MILLION PEOPLE, INCLUDING MANY RELATIVES OF NEW YORKERS. WHILE SCIENTISTS, PHYSICIANS AND OTHER NEW YORKERS RUSHED TO ASSESS THE DAMAGE, SEEK SOLUTIONS, AND BRING MUCH-NEEDED MEDICAL SUPPLIES AND OTHER HELP, THE LONG RANGE EFFECTS WILL NOT BE KNOWN FOR YEARS,

NOW THEREFORE, I, RUDOLPH W. GIULIANI, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THIS IMPORTANT ANNIVERSARY, DO HEREBY PROCLAIM SUNDAY, MARCH 27, 1994 IN THE CITY OF NEW YORK AS

"BELARUSAN INDEPENDENCE DAY"



RUDOLPH W. GIULIANI
MAYOR

IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.



STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

*Proclamation*

*WHEREAS, I commend Americans of Belarusan descent as they celebrate the 76th anniversary of the declaration of the independence of the Belarusan Democratic Republic; and*

*WHEREAS, I affirm the diligence and tenacity of the Belarusan people in their fight to regain complete sovereignty and independence and to participate in and enjoy a true democratic government; and*

*WHEREAS, I acknowledge the effort of the Belarusan American Association, for their commitment to restoring democracy in their homeland; and*

*WHEREAS, I praise the decision of the people of Belarus to rid their nation of nuclear weapons in an attempt to enhance peace throughout the world; and*

*WHEREAS, I join the people of Belarus in recognizing the importance of democratic and economic reforms in an endeavor to improve the quality of life for Belarusans;*

*NOW, THEREFORE, I CHRISTINE TODD WHITMAN, Governor of the State of New Jersey, do hereby proclaim*

*MARCH 25, 1994*

*as*

*BELARUSAN INDEPENDENCE DAY*

*in New Jersey.*



*Given, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this twenty-fifth day of March in the year of Our Lord one thousand nine hundred and ninety-four and of the Independence of the United States, the two hundred and seventeenth.*

*GOVERNOR*

*BY THE GOVERNOR:*

*LONNA R. HOOKS, SECRETARY OF STATE*

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## У НЬЮ-БРАНСЬВІКУ

Сьвяткаваньне адбылося ў традыцыйным ужо для падобных урачыстасьцяў месцы — гатэлі Гаят-Рыджэнсі ў форме банкету. Арганізатарамі сьвяткаваньня былі ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) — галоўная зь Нью-Ёрку і ньюджэрзійская, ды кіраўніцтва Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (АБАМ). Сьвяткавальную праграму вялі Вера Запруднік, старшыня АБАМ, сп. Юрка Азарка ад БАЗА. За мастацкую частку праграмы была адказная др. Алла Орса-Рамана.

У дзень сьвяткаваньня, нядзелю 27-га сакавіка, а. прат. Васіль Андрэюк, адслужыў малебен за Беларускі народ, сказаў прыгожую пропаведзь на тэму дня. Царква была поўная народу. Суладна сьпяваў хор пад кіраўніцтвам таленавітага рэгента Аўгена Дубягі малодшага.

Адразу-ж па багаслужбе адбылася акадэмія-абед у гатэлі Гаят-Рыджэнсі, што знаходзіцца тут-жа, па другім баку рэчкі.

Урачыстасьць пачалася прысягай на вернасьць амэрыканскаму сьцягу, якую сказаў 10-гадовы ўнук сп-тва Васіля й Галіны Русакоў Адам Грант. Айцец Васіль прачытаў малітву, блаславіў сталы.

Сярод гасьцей былі кангрэсмэн Фрэнк Палоўн, гэнэральны консуль Рэспублікі Беларусь Леанід Каравайка, беларускія дыпляматы, прадстаўнікі пасольства РБ у Вашынгтоне і Беларускае місіі пры ААН.

Арганізатары сьвяткаваньня атрымалі прывітальныя тэлеграмы, лісты, праклямацыі ад кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў і амэрыканскіх установаў. Губэрнатары штатаў Нью-Джэрзі і Каліфорніі, а таксама мэр гораду Нью-Ёрку абвесьцілі адмысловымі праклямацыямі дзень 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці. Тэксты гэтых праклямацыяў прачыталі сп.сп. Ірэна Азарка, Коля Рамана, Раіна Сяменава і Вера Запруднік.

З дакладам па-ангельску на тэму бягучых падзеяў на Беларусі і ўдзелу ў гэтых падзеях амэрыканскіх беларусаў выступіў др. Янка Запруднік.

Сп. Юрка Азарка прадставіў аўдыторыі кангрэсмэна Фрэнка Палоўна. Сп. Палоўн, дэмакрат, прадстаўляе ў Кангрэсе ЗША 6-ю выбарчую акругу, у якой знаходзіцца беларуская праваслаўная царква Жыровіцкай Маці Божай. Сп. Палоўн ня толькі мае ў сваёй акрузе беларускіх выбаршчыкаў, але й жонка ягоная часткава беларускага паходжаньня, пра што ён з задавальненьнем паведаміў аўдыторыі. Ён сказаў таксама, што будзе рады супрацоўнічаць зь беларуска-амэрыканскай грамадой у справе дапамогі Беларусі.

Напярэдадні сьвяткаваньня, 23 сакавіка, сп.ф. Палоўн зьмясьціў у «Запісах Кангрэсу», афіцыйнай кангрэсавай публікацыі, свае заўвагі на тэму незалежнасьці Беларусі. Там, між іншага чытаем:

«Апошнія падзеі на Беларусі, гэткія як зьняцьце ў студзені сёлета сп. Шушкевіча зь ягонага становішча, спарадзілі трывогу, што працэс рэформаў можа быць спавольнены. Тым ня менш, я пэўны, што на Беларусі адбыліся важныя зьмены ў кірунку да незалежнасьці й дэмакратыі. Прэзыдэнт Клінтан адзначыў гэта ў часе свайго нядаўнага візыту ў Менск. І думаю, што мы павінны зрабіць усё ў нашых сілах, каб забясьпечыць працяг рэформаў, узмацняючы гэтым дэмакратыю і вольны рынак, і даць ясна зразумець расейцам — асабліва апазыцыі ў Маскве, якая дэстабілізуе палажэньне — што Злучаныя Штаты не пацерпяць ніякага аднаўленьня расейскай улады над сувэрэнным Народам Беларусі».

Прадстаўнік пасольства РБ сп. Уладзімір Ганчаронак прачытаў прывітаньне ад пасла сп. Сяргея Мартынава. Красамоўна прамаўляў генэральны консуль РБ у Нью-Ёрку сп. Леанід Каравайка.

У выступленьнях ад імя маладых амэрыканскіх беларусаў сп-ня Натальля Русак гаварыла (па-ангельску) пра духовую й ідэйную лучнасьць старэйшага й малодшага пакаленьняў; сп-ня Алеся Сёмуха (па-беларуску) расказала пра ўплыў амэрыканскіх сьвяткаваньняў угодкаў незалежнасьці БНР на моладзь у Беларусі; сп-чна Вера Запруднік падала да ведама пра заплянаваную на сёлетні летні сэзон дзіцячую праграму ў беларускім лецішчы Бэлер-Менск, дзе мінулымі гадамі запачаткоўвалася шмат асабістых сувязяў сучасных актывістаў АБАМ.

Цёпла было ўспрынятае прывітальнае слова старшыні галоўнай управы БАЗА сп. Антона Шукелойця. Сп. Я. Запруднік перадаў прывітаньне ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча.

У мастацкай частцы праграмы сп.сп. Пятро Скепка, Зьміцер Яўтуховіч, Ірына Мозылева, Марыя Тэрысы і Эля Андрэюк парадавалі прысутных беларускімі песьнямі.

Выдатна выступіла ў драматычнай сцэне-маналёгу народная артыстка Беларусі Рыма Маленчанка, якая данесла да гледачоў, праз споведзь адзінотнае жанчыны ў палескай «мёртвай зоне», спусташальную чарнобыльскую трагедыю.

Была прынятая рэзалюцыя. Правялі збор грашовых ахвяраваньняў на выдавецкую справу БАЗА. Урачыстасьць законьлася адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Увагу ў сьвяткавальную залю ўпрыгожвалі абразы беларускага мастака з Бацькаўшчыны Віктара Маркаўца. Тут-жа можна было набыць беларускія кніжкі, касэткі, сувэніры.

Сёлетнія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР прадэманстравалі ня толькі зацікаўленьне беларуска-амэрыканскае грамады мінуўшчынай краю свайго паходжаньня, але й гатовасьць браць актыўны ўдзел у падзеях, якія адбываюцца цяпер на Беларусі.

**Я.З.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

сьвяткавальнага сходу на адзначэньне 76-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, праведзенага ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., у нядзелю 27 сакавіка 1994 году.

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь маюць адбыцца да 26 чэрвеня 1994 гооду прызыдэнцкія выбары; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО гэтыя прэзыдэнцкія выбары, калі-б яны былі свабодныя, маглі-б падмацаваць дэмакратыю і палепшыць шанцы на выхад з эканамічнага, сацыяльнага і культурнага крызісу, гэткім чынам узмацняючы мір ды супрацоўніцтва ў рэгіёне; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь афіцыйныя ўлады гвалтуюць правы чалавека і зацiскаюць грамадзянскія свабоды, арыштоўваюць ды перасьледуюць дэмакратычных актывістаў і кіраўнікоў свабодных прафсаюзаў; і

ДЗЕЛЯ ТАГО, ШТО ў Рэспубліцы Беларусь урад усё яшчэ трымае пад сваім кантролем сродкі масавай інфармацыі, якія недаступныя дэмакратычным партыям і групам, і чыноўніцтва маніпулюе грамадзкую думку,

ДЗЕЛЯ ГЭТАГА мы, удзельнікі гэтага ўрачыстага сходу на адзначэньне 76-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, аднадушна пастанаўляем:

ІНФАРМАВАЦЬ амэрыканскае грамадзтва і амэрыканскія ўлады аб фактах парушаньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь;

ПРАСІЦЬ урад Злучаных Штатаў і адпаведныя амэрыканскія і міжнародныя арганізацыі паслаць у Рэспубліку Беларусь назіральнікаў на час заплянаваных там выбараў, каб прасачыць іхнае правядзеньне;

ПРАЦЯГВАЦЬ ПОШУКІ мэдычнае дапамогі для людзей на Беларусі, што пакутуюць ад чарнобыльскае радыяцыі;

ЗЬВЯРНУЦЬ УВАГУ міжнароднае грамадзкасьці на генацыдныя расстрэлы ў 1937-1941 гадох у Курапатах пад Менскам, дзе ляжыць каля чверці мільёну безьвінных ахвяраў сталінскага рэжыму, ня прызнаных афіцыйнымі ўладамі Беларусі і без пакараньня гэтых уладаў;

ПАДАХВОЧВАЦЬ амэрыканскіх грамадзянаў, асабліва тых, што маюць сваякоў у Беларусі, наведваць Рэспубліку Беларусь, бо гэткія наведваньні пашыраюць міжнароднае паразуменьне, спрыяюць дзелавым кантактам паміж Беларусяй і Злучанымі Штатамі ды ўмацоўваюць справу дэмакратыі.

## ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА!

*(з прамовы генэральнага консуля Рэспублікі Беларусь Л. Каравайкі на сьвяткаваньні ў Нью-Брансьвіку)*

Шчыра віншую Вас ад імя Генэральнага консульства Рэспублікі Беларусь ў г. Нью-Ёрку з нагоды 76-й гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Лічу, што мне пашчасьціла ўжо другі год запар сьвяткаваць гэтую сьветлую падзею разам з Вамі. Шмат чаго адбылося на Радзіме і ў сьвеце за мінулы год. Сусьвет крочыць наперад. Але ў такія дні, як сёнешні, хочацца азірнуцца назад і ўзважыць, ці ўсё ты зрабіў дзеля адраджэньня Бацькаўшчыны — для росквіту яе, для лепшага лёсу сваіх дзяцей.

Беларусы... Колькі іх, раскіданых лёсам па сьвеце. Колькі дарог...

Дарагі беларусе!

«Праз смугу гадоў цябе вабіць красой Беларусь, нібы чар. У якіх бы краёх ты ня быў — уваччу далягляд, гэты лес і рамонкавы луг.

Па дарогах жыцьця, у вандраваньнях на сьвеце ты ня страціў, зьбярог найдарожшы свой скарб — самабытную матчыну мову. Безь яе як зьяднаць свае сэрцы братам-беларусам?!»

Людзі добрыя, будзем добрымі, будзем шукаць адзін аднаго і знаходзіць. Будзем разам, будзем як адна сям'я, бо «мы варты існаваць на гэтай беднай, але адзінай для нас боскай зямлі».

На ўспамін прыходзяць словы Васіля Быкава, сказаныя ім на Першым зьездзе беларусаў сьвету: «Пэўна-ж, як і ўсё пад сонцам, і яна недасканалая, яна будзе разьвівацца і мяняцца, калі мы пакарыстаемся ёю. Але мы змушаны будзем карыстацца менавіта ёю, бо іншага выйсьця ў нас няма, бо ў нас яна засталася апошняю. Можа яшчэ гісторыя дасьць нам час, кончык стагодзьдзя, не болей. І мы ўрэшце зацьвердзім перад ёй і Богам, перад сваімі нашчадкамі, на што здольныя мы, век пагарджаныя, ашуканыя, прададзеныя беларусы, ці вартыя мы існаваць на гэтай беднай, спустошанай, атручанай радыёнуклеідамі, але адзінай для нас боскай зямлі?»

Я веру ў наш народ і хачу паўтарыць — мы вартыя існаваць на гэтай боскай зямлі.

«Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім, зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасьць уцячэ.
Праз усе вякі нас толькі цiснулі
І хадзіць хацелі, як па тлі.
Нас душылі Волгамі і Вісламі,
Кожны тужыў зашмаргу пятлі.
Нас турылі з Бацькаўшчыны,
з Дзедзіны
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены,
Маем права мы на мазалі.
Нас палілі, катавалі, пряталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Карали, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,
Калі
Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.
Над сьвятынямі паруйнаванымі
Паклянёмся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні.
Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты.
Дык адродзімся душой і вераю.
З намі Бацька Бог
І Дух Сьвяты!

*(Р. Барадулін, 1991 г.)*

На заканчэньне, як прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку і супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, хацеў бы, карыстаючы з нагоды, таксама паінфармаваць шаноўнае спадарства аб

*(Працяг на 5-ай б.)*

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## У БЭЛЬГІІ

Сьвяткаваньне 25 Сакавіка гэтага году, маленькай групкай беларусаў Бэльгіі, адбылося ў сыботу 26 сакавіка ў гасподзе Зоі Смаршчок.

Мы беларусы, дзе-б мы ня былі й якбы мы не сьвяткавалі гэтае вялікае Сьвята: скромненька сустракаючыся толькі ў выглядзе сямейнага спатканьня, ці больш абшырнага з прамовамі, дакладамі ці іншага роду маніфэстацыямі, мы ў сэрцах трымаем той сьвяты Акт, Акт 25 САКАВІКА 1918 году, які перад усім сьветам паказаў, што БЕЛАРУСЬ жыве, што яна ёсьць нацыя, што Яна патрбуе быць вольнай і незалежнай, як усе іншыя народы сьвету.

Спатканьне нашае прайшло ў вельмі прыемнай атмасфэры. Прысутныя мелі нагоду вітаць новапрыбылага, маладога беларуса Уладзю Селядцова. Уладзя, пасьля некаторага пабыту ў Лёндане, прыехаў на студыі тэалёгіі ў Лювэнскім Унівэрсытэце. Дзеля таго, што бальшыня прысутных — былыя студэнты Лювэнскага Ўнівэрсытэту, дык Ўладзю было вельмі цікава паслухаць расказы аб нашым калішнім студэнцкім жыцьці ў Лювэне.

Было прачытана некалькі прывітаньняў на дзень 25 Сакавіка, атрыманых ад розных арганізацыяў і прыватных асобаў. Таксама былі прачытаныя апошнія паведамленьні зь Беларусі. Паведамленьні, на вялікі жаль, былі сумныя й трывожныя. Прыкладам галасаваньне ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь па асобных разьдзелах новае Канстытуцыі, аб выступленьні ў беларускім парламанце дэпутата Сарокіна, ў якім ён «зь лёгкай рукі» зноў пачаў скланяць прапагандысцкі шупел нацыяналізму ў яго самай змрочнай інтэрпрэтацыі. Ён патрабуе стварыць камісію для расьсьледаваньня «фактаў прапагацыі ў сродках масавай інфармацыі нацыяналізму».

Магчыма найбольш сумным было пачуць прачытаньне ўрыўку прамовы на сэсіі Вархоўнага Савету Старшыні Савету Міністраў Беларусі В. Кебіча. Ён заяўляе, што «аснаўным прыярытэтам Беларусі, безумоўна, зьяўляецца адносіны з Расійскай Фэдэрацыяй».

Апошнія падзеі на Беларусі паказалі, што наш адвечны вораг надалей прадаўжае свае намаганьні загнаць наш народ у далейшае паняволеньне. Намаганьні гэтыя, на вялікі жаль, падтрымліваюцца нават некаторымі рэнэгатамі беларускага паходжаньня. Іх ёсьць, на шчасьце, ня шмат, але, на нашае няшчасьце, яны да сяньня займаюць кіруючыя пасады ў Беларусі. Яны, хаця трымаюцца ўлады незаконна, не дазволілі, таксама няправўна, канстытуцыйнага рэфэрэндуму ані поўнаправўных народных выбараў. І ў канцы, выключылі, таксама няпраўна, з ураду не падходных для йхніх поглядаў сяброў ураду.

**Я. Жучка**

## У ЛЁНДАНЕ

Урачыстае сьвяткаваньне 76-ых угодкаў Акту 25-га Сакавіка, арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), адбылося ў нядзелю дня 27-га сакавіка ў залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Сьвяточнай урачыстасьцю кіраваў заступнік старшыні ЗБВБ А. Зданковіч, які прывітаў прысутных, сярод якіх было многа гасьцей зь Беларусі, зь іншых краінаў, нат з-за акіяну, ды падкрэсьліўшы гістарычную важнасьць угодкаў.

С. Рагойша у сваім рэфэраце зрабіў шырокі гістарычны агляд, асабліва дакладна была схарыктарызаваная «Нашаніўская» пара і яе дзеячы. Заўдзячваючы тэй пары і наступіла пара нацыянальнай сьведамасьці, вынікам якой і было прагалошаньне Акту 25-га Сакавіка.

Вядучы ўрачыстасьцяй зачытаў надасланыя прывітальныя лісты: З. Пазьняка, старшыні БНФ «Адраджэньне», В. Трыгубовіч, старшыні Камісіі замежных сувязяў ды В. Вячоркі, старшыні Палітычнай камісіі БНФ; М. Зуя, прэзыдэнта Цэнтральнай Рады БНР, Я. Жучкі, старшыні сэктару БНР у Бэльгіі, Р. Завістовіча, старшыні і М. Сенькі, сакратара Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, П. Гуза, сакратара Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, др. Р. Жук-Грышкевіч, старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, А. Хрэноўскага, старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку, Канада, Р. Кардонскага, старшыні Парафіяльнай Рады парафіі БАПЦ сьв. Спаса ў Монтрэалі, Канада, А. Міцкевіча, старшыні аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку, А. Лашука ЗБВБ, Т. Буйко (зь Менску) і Я. Калбасы (сябра ЗБВБ).

З прывітальным словам выступаў О. Якавіцкі, консул ад Ураду Рэспублікі Беларусь. Ён пазнаеміў аудыторыю са сваімі абавязкамі і працай.

Ад Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Наваградзкага раёну цёплым словам вітала Т. Царук.

Са словам мастацкім выступаў паэт-празаік Ул. Арлоў. Зачытваючы свой твор эссэ «Незалежнасьць гэта — ...» у якім столькі гумару, хоць і чорнага, аб «апецы старшага брата» над малодшым ды ўплывах таго-ж брата на ўсё наша беларускае роднае.

З прывітальным словам ад Беларускіх Вэтэранаў гэтаксама выступаў пісьменьнік К. Акула з Канады. Ён зачытаў свой сатырычны твор з беларускага жыцьця ў Атаве.

Верш на ангельскай мове «Рэцэпт Цуда» прадэклямавала аўтарка яго, паэтэса Вера Рыч.

Мілае ўражаньне выклікала выступленьне Караліны Мацкевіч і дзіякана З. Бяленькі, якія ў беларускім нацыянальным строі, прасьпявалі песьню Я. Купалы — «Не пагаснуць зоркі ў небе».

Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ, зачытаў прынагодны прывітальны ліст, які ён перадаў праз радыё «Свабода» ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі усім беларусам. Ён гэтаксама зьвярнуўся з просьбай грашовага ахвяраваньня на фонд «Дар Сакавіка». Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну урачыстасьць была закончаная.

Пачастунак, сяброўская прыязная атмасфера прадаўжалася да позьняга вечару. У часе пачастунку зьбіраліся ахвяры на фонд «Дар Сакавіка» і было сабрана 250 фунтаў.

Пісьменьнік Ул. Арлоў надзяліў нас некалькімі кніжкамі.

**А. Зданковіч**

## У РЫЧМАНД ГІЛ

Беларуская грамада ў Рычманд Гіл, у Нью-Ёрку, адзначыла 76-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю, 3-га красавіка. Раніцою адбылася Божая Служба ў царкве Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл. Літургію адслужыў а. ігумэн Грэгары (O'Keefe), хорам кіраваў сп. Сымон Жамойда. пасьля абедні. а. Грэгары адслужыў Малебен за Беларускі народ. Ганаровую варту са сьцягамі трымалі сп.сп. Кастусь Мярляк і Ўладзімер Арашкевіч. Прагучала таксама многалецьце Беларускаму народу і незалежнай Беларускай дзяржаве.

Пасьля службы, у Беларускім Грамадзкім Цэнтры, дзе сабралося шмат людзей, адбылася патрыятычная акадэмія. Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку, сп. К. Мярляк прывітаў сход, ды ўрачыста абвяіў, што ўсе прысутныя тут, з упаважненьня ворганаў БНР, абвяшчаюцца беларускімі грамадзянамі на гэты дзень (3-га красавіка 1994 году).

Сп-ня Ларыса Макена (Клішэвіч) прачытала праклямацыю мэра гораду Нью-Ёрку, сп. Рудольфа Джуліяні, што абнародвала Дзень 25-га Сакавіка, 1994 году Беларускім Днём у горадзе. Таксама былі прачытаныя сьвяточныя прывітаньні ад розных арганізацыяў і асобаў.

Кастусь Мярляк прачытаў цікавы рэфэрат-прамову аб гістарычным шляху Беларускай Народнай Рэспублікі: як была абвешчаная БНР, што сталася ў міжчасе 1920-1990-ых гадоў, і сёньняшні палітычны стан беларускае нацыі. Закончылася урачыстасьць адыграньнем Багдановічавай «Пагоні» (зь песьняў Данчыка).

Пасьля быў агульны пачастунак, гутаркі.

**Васіль Шчэцька**

## АТЛЕТЫКА

У Парыжы на Эўрапэйскіх спаборніцтвах па атлетыцы, якія адбываліся ад 11-га да 13-га сакавіка, сёлета удзел брала й Беларусь.

Сярод 20 краінаў, якія здабылі мэдалі, на 10-ым мейсцы знаходзіцца Рэспубліка Беларусь, з адным залатым мэдалём, які здабыла Н. Духнава (бег на 800 мэтраў).

**М. Швэдзюк, Англія**

## СУМНАЯ ГАДАВІНА

Пяцьдзесят год таму — 3-га сакавіка 1944 году, у Вільні, ад бандыцкае кулі загінуў ведамы беларускі драматург, грамадзка-палітычны дзяяч і выдатны журналіст, Францішак Аляхновіч. Хоць з тае трагічнае даты мінула пяцьдзесят гадоў, аднак яшчэ дакладна ня ведама, хто быў забойцам Ф. Аляхновіча — паляқі ці савецкія партызаны. Да нядаўнага часу прозьвішча Францішка Аляхновіча зусім ня згадвалася на Бацькаўшчыне, хочь ён напісаў пару дзесяткоў п'есаў, першы выдрукаваў працу пра беларускі тэатр ды вялікую колькасьць розных артыкулаў. Савецкая ўлада не магла даравать Аляхновічу, што ён адзін зь першых у сьвеце пачаў раскрываць праўду аб савецкім строі, напісаўшы працу «У кіпцюрох ГПУ» (1937), якая была перакладзеная на некалькі моваў. Праўда, апошнім часам Аляхновіч пачынае згадвацца ў беларускім друку, ды зьместоўны артыкул аб ім уключаны у 1-ы том Бібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменьнікаў (1992). Аднак і ў згаданым артыкуле ёсьць няпрыемная «лыжка дзёгцю». Аўтар артыкулу піша, што «Аляхновіч быў **пакараны сьмерцю** савецкімі ці польскімі партызанамі...». Відаць яшчэ доўга займe часу, пакуль факты будуць насьвятляцца аб'ектыўна на балонках нават новага беларускага друку.

## ЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ АНГЕЛЬШЧЫНЫ З РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ

Сёлета ў сакавіку, міністр эканомікі Беларусі Уладзімір Радкевіч падпісаў ў Лёндане дзьве эканамічныя ўмовы з Ангельшчынай, якія спрыяюць навязаньню цясьнейшых сувязяў між дзьвума краінамі ды гарантуюць брытанскае капіталаўкладаньне ў Беларусі. Падпісаньне гэтых умоваў значна ўзмацняе эканамічныя сувязі Беларусі з заходнімі краінамі ды будзе спрыяць стабілізацыі эканомікі Рэспублікі. У цяперашнім часе Ангельшчына мае у Беларусі 35 дзейных супольных прадпрыёмстваў. Шмат брытанскіх прамысловых фірмаў зацікаўленыя ў навязаньні эканамічных кантактаў зь Беларусьсю.

## НЯМА ЛІДЭРАЎ

Аддзел грамадзкіх сувязяў ураду Беларусі правёў апытаньне 268 мянчанаў, пытаючыся ў іх, хто зь беларускіх лідэраў мог-бы вывесьці рэспубліку з крызісу. «Гэткіх няма» — быў адказ 31,2 працэнты апытаных, 30,4 працэнты наагул не далі адказу. За Кебіча выказаліся 10,3 працэнты апытаных, а за Грыба — 4,2. (*«Рэспубліка»*, 15.II.94)

## ПРОДАЖ СКАНФІСКАВАНАЕ КАНТРАБАНДЫ

Агентства Інтэрфакс паведаміла 29 сакавіка, што ўрад Рэспублікі Беларусь дазволіў камандаваньню пагранічных войскаў Рэспублікі прадаваць сканфіскаваную ў кантрабанды зброю й амуніцыю ды выкарыстоўваць выручаныя сумы на пабудову жыльля для сваіх жаўнераў.

У паведамленьні гэтаксама кажацца, што прызнаны ў сёлетнім годзе бюджэт пагранічных войскаў Беларусі 10 мільярдаў, а патрэбныя для камандаваньня пагранічных войскаў фонды складаюць мінімум 20 мільярдаў рублёў.

## ЖЫРЫНОЎСКІ НЕ ПАПУЛЯРНЫ Ў БЕЛАРУСІ

Сацыялягічны аддзел газэты «Гомельская праўда» паставіў сваім чытачам пытаньне: якога тыпу палітычнага й дзяржаўнага лідэра патрабуе сёньня Беларусь. 41 працэнт рэспандэнтаў назвалі Ю. Андропова, 40,5 — П. Машэрава, 12,2 — Леніна, 7,2 — Сталіна, крышку больш за 3 працэнты — Жырыноўскага, а Гарбачова — 1,8 працэнты. (*«Рэспубліка»*, 15.II.94)

## У САЎТ РЫВЭРЫ



Сьвяткаваньне 76-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у Саўт Рывэры, Нью-Джэрзі пачалося ўрачыстым падняцьцем беларускага нацыянальнага сьцягу раніцай у суботу 26 сакавіка перад будынкам гарадзкой управы ў прысутнасьці радных гораду і колькаснай групы прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў. Бургомістар (мэр) гораду Саўт Рывэр Томас Дж. Тото, нажаль, ня мог быць прысутным на ўрачыстасьці, бо быў якраз на тыднёвай канвэнцыі мэраў штату Нью Джэрзі, далёка ад Саўт Рывэру.

Пасьля падняцьця сьцягу ўсе накіраваліся на традыцыйны ўжо пачастунак у Беларускі Грамадзкі Цэнтар.

У нядзелю 27 сакавіка ў царкве Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай была адслужаная ўрачыстая Сьвятая Літургія настаяцелем айцом Мячаславам Брынкевічам. Асабліва прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам здольнай, таленавітай студэнткі Джульярд Скул оф Мюзык у Нью-Ёрку, рэгентшы хору Ірыны Мозылевай. Пасьля Сьв. Літургіі быў адслужаны ўрачысты малебен за Бацькаўшчыну, Беларусь і беларускі народ. Перад малебнам айцец Мячаслаў сказаў кароткую патрыятычную пропаведзь.

У часе малебну стаяла ганаровая сьцяжная варта, сьцягі трымалі: амэрыканскі — сп. Міхась Сенька, беларускі вэтэранскі — сп. Уладзімер Сітнік і беларускі — паэт Янка Золак. Малебен закончыўся беларускім рэлігійным гімнам «Магутны Божа», выдатна адсьпяваным хорам.

А 3-ай гадзіне п.п. у залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная Акту 25 Сакавіка 1918 г.

Акадэмію адчыніў і вёў сп. інж. Міхась Бахар. Пачалася Акадэмія прасьпяваньнем прысутнымі амэрынскага нацыянальнага гімну. Сп. Бахар прывітаў усіх ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі з 76-мі угодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі у беларускай мове, а тады па-ангельску падаў агляд усіх важнейшых здарэньняў у Беларусі.

Вельмі зьмястоўны рэфэрат у беларускай мове прачытаў старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. інж. Расьціслаў Завістовіч. Канфэрансье прачытаў, прыхільна да Беларусі і Беларусаў напісаную праклямацыю ад губэрнатара штату Нью-Джэрзі Сп-ні Крыстыны Тодд Уітман, абвяшчаючы дзень 25 сакавіка 1994 г. Беларускім Днём Незалежнасьці ў штаце Нью-Джэрзі.

Ён-жа перадаў прывітаньні й найлепшыя пажаданьні ад мэра Саўт Рывэру Томас Дж. Тото і прадставіў пяць радных гораду. Адзін з радных перадаў прывітаньні і прачытаў праклямацыю мэра гораду.

Сп. Бахар прачытаў шматлікія прывітаньні зь Беларусі, Вашынгтону, Аўстраліі, Канады і з Амэрыкі.

У мастацкай частцы паэты Янка Золак і Міхась Кавыль прачыталі свае вершы напісаныя на тэму дня. Сьпявачка Ірына Мозылева і таленавіты кампазытар, сьпявак і музыка Зьмітрок Яўтуховіч далі цудоўны канцэрт беларускіх патрыятычных і народных песьняў, за якія былі шчодра і гучна ўзнагароджаныя воплескамі ўдзячных слухачоў.

Афіцыйнае сьвяткаваньне было закончанае прасьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Міхась Бахар**

# САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ

## У ТАРОНТА

27 сакавіка беларускае грамадзтва Канады ўчыста адзначала 76-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сьвяткаваньне ладзіла Згуртаваньне Беларусаў Канады. У сьвяточна прыстроенай залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру, што на 524 Ст. Клярэнс Авеню ў Таронта, апрача галярэі партрэтаў дзяржаўных, грамадзкіх і культурных дзеячоў Беларусі, наладжаная была выстаўка кніг і іншых беларускіх выданьняў за мяжой ды на Бацькаўшчыне, экспазыцыя калекцыі паштовых марак Беларусі з 1992 і 1993 гадоў, плякатаў, паштовак.

У нядзелю 27 сакавіка у БАПЦаркве Сьв. Кырылы Тураўскага Архіяпіскап БАПЦ Уладыка Мікалай у саслужэньні а. Міраслава адправіў сьвятую Літургію. Сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Міколы Ганька. У сваёй казані Уладыка Мікалай гаварыў пра Полацкіх князёў Рагвалода й Рагнеду, князя Усяслава Чарадзея, ягоную праўнучку князёўну Прадславу — сьв. Еўфрасіньню Полацкую, асьветніцу Беларусі, залатавуснага Кірылу Тураўскага. Гаварыў аб патрэбе служэньня беларускаму народу, бо служба Яму – ёсьць службай Богу. Багаслужба закончылася беларускім рэлігійным гімнам «Магутны Божа».

У суседняй да капліцы залі Цэнтру людзі міжсобку віталіся, аглядалі выстаўку, куплялі кнігі, паштоўкі, дыскутавалі, рабілі заўвагу адносна вывешанага пад столлю напісу: «76-я Угодкі Дзяржаўнасьці Беларусі». Болей адпаведным сяньня быў бы напіс: «76-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі». Лішніе даказваць, што мы мелі сваю дзяржаўнасьць ужо ў 10-м стагодзьдзі ў форме Полацкага, Турава-Пінскага й Смаленскага княстваў, а ад 13-га стагодзьдзя ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Дыскусіі й сяброўскія гутаркі працягваліся і ў часе застольнай бяседы, прыгатаванага пад кіраўніцтвам сп-ні Марыі Ганько абеду. Была чарка й да чаркі. «І елі смачна й багата, на тое-ж даў Бог людзям сьвята!»

Сп. Аляксандар Насевіч, родам з Берасьцейшчыны, сябра Галоўнай Управы ЗБК адчыніў уступным прывітальным словам урачысты сход. Старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько прывітаў усіх са сьвятам, вітаў гасьцей: Др. Вітаўта й сп-ню Зору Кіпеляў із ЗША, праф. Алу Сакалоўскую й др. хіміі Юрага Гудзіменку зь Менску, ды прачытаў прывітаньні ад: Старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча, ад старшыні Бэльгійскага Сэктару Рады БНР інж. Янкі Жучкі, ад старшыні Галоўнай Увравы БАЗА сп. Антона Шукелойця, ад старшыні аддзелу БАЗА у Нью Ёрку, сп. Аляксандра Міцкевіча, ад старшыні аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе сп. Янкі Ханенкі, ад сп. П. Гуза, сакратара Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі ад сп. Анатоля Храноўскага, старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку й старшыні Парафіяльнай Рады сп. Р. Кардонскага, ды ад старшыні сп. М. Сысой і сакратара В. Рамук Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага.

Др. Ала Сакалоўская, кіраўнік Катэдры Беларускай Мовы й Нацыянальнай Культуры Менскага Лінгвістычнага Унівэрсытэту расказала пра палітычную, моўную й эканамічную сытуацыю ў Беларусі.

Ключавы прамоўца, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку др. Вітаўт Кіпель, падзякаваў старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Міколу Ганьку за запросіны, Каардынацыйнаму Камітэту Беларусаў Канады за фінансавую дапамогу ў выданьні й у пашыраньні кнігі «Курапаты».

Свой зьмястоўны даклад ён пачаў зь гісторыі, каб на фоне яе была зразумелай цяперашняя нялёгкая сытуацыя Беларусі ды, каб адказаць на пытаньне, якая-ж пэрспэктыва Беларусі на будучыню.

Ад заранья сваёй тысячагодняй гісторыі, перадусім дзеля свайго геапалітычнага палажэньня, беларускі народ змагаўся за захаваньне сваёй дзяржаўнай незалежнасьці. Вялікае Княства Літоўскае баранілася галоўна ад нападаў Маскоўшчыны з усходу, ды Крыжакоў із захаду.

У 1795 годзе пасьля падзелу Рэчыпаспалітай, у склад якое ўваходзіла В.К.Л., Беларусь апынулася пад акупацыяй Масквы. Пачаўся чорны пэрыяд нашай гісторыі. Маскоўшчына паставіла сабе за заданьне зьнішчыць беларускі народ. На тэрыторыі Беларусі царскі ўрад зачыняў школы, зачынены быў Віленскі Унівэрсытэт. Пасьля нацыянальна-вызвольнага паўстаньня Кастуся Каліноўскага была ўведзена забарона беларускага друку. Русыфікацыя праводзілася, як і праводзіцца цяпер, праз расейскую праваслаўную царкву школу й адміністрацыю. Па нейкім часе, думаў чыжынец, што беларусаў ужо няма й зьдзівіўся, што ў часе перапісу 1897-га году каля 6-ці мільлёнаў насельніцтва падало як сваю, беларускую нацыянальнасьць. Паміма жорсткай русыфікацыі народ выжыў. У канцы 19-га стагодзьдзя пачалося нацыянальнае адраджэньне, якое ў вельмі хуткім часе, на пачатку 20-га стагодзьдзя, прывяло да Акту 25 Сакавіка — абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Хоць затым Беларусь ізноў была паняволеная расейскім бальшавізмам і польскай санацыяй. Бальшавікі выразалі ўпень беларускую ідэйную інтэлігенцыю, ды нішчылі працаздольную частку народу, а рэшту русыфікавалі. Тое самае рабілі й палякі ў Заходняй Беларусі. Праз два стагодзьдзі нас з усіх бакоў рэзалі, вынішчалі, а мы жывем. Беларускі народ жывучы таму трэба больш аптымістычна глядзець у будучыню, пагатоў, што ў Беларусі ёсьць і апазыцыя ды народ не сказаў яшчэ сваё слова. А на фоне нашае гісторыі, усё-ж трэба з гонарам казаць: **Жыве Беларусь**. Гэтак закончыў сваё выступленьне Вітаўт Кіпель.

Др. Барыс Рагуля прачытаў зварот ськіваваны да сп. Боутрос Боутром Галі, Гэнэральнага Сакратара Задзіночаных Нацыяў, у якім ён асуджаў генацыдную палітыку сталінскага рэжыму у Беларусі й дамагаўся, каб Задзіночаныя Нацыі выслалі ў Беларусь міжнародную камісію для расьследваньня бальшавіцкіх злачынстваў у Курапатах, дзе НКВД праводзіла на працягу 1937-1941 гадоў масавыя растрэлы нявінных людзей. Зварот быў прыняты урачыстым сходам аднагалосна.

Старшыня Каардынайнага Камітэту Беларусаў Канады, др. Раіса Жук-Грышкевіч прывітала прысутных з 76-мі Угодкамі БНР і прапанавала урачыстаму сходу рэзалюцыю Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады да Галоўнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў. Рэзалюцыя была прынятая урачыстым сходам аднагалосна.

На заканчэньне кіраўнік сходу падзякаваў усім, хто спрычыніўся да арганізацыі сьвяткаваньня 76-х угодкаў БНР, а перадусім Уладыку Мікалаю й а. Міраславу за багаслужбу, дакладчыкам др. Вітаўту Кіпелю, прафэсару Сакалоўскай, сп-ні Марыі Ганько й спадарыням за абед й усім удзельнікам сьвяткаваньня за прысутнасьць.

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## З ПРАМОВЫ Л. КАРАВАЙКІ

(Працяг з 3-яй б.)

дзейнасьці Міністэрства замежных спраў.

Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь імкнецца да забесьпячэньня нацыянальных інтарэсаў Беларусі, як сувэрэннай дзяржавы, перааўтварэньня рэспублікі ў бязьядзерную і нейтральную краіну, наладжваньня і развіцьця поўнамаштабных двухбаковых сувязяў з замежнымі краінамі, у тым ліку са Злучанымі Штатамі Амэрыкі, забеспячэньня паўнацэннага ўдзелу Беларусі ў шматбаковым супрацоўніцтве ў межах міжнародных арганізацыяў.

Генэральнае консульства Рэспублікі Беларусь у г. Нью-Ёрку бачыць сэнс свайго далейшага існаваньня ў наступным. Скажу словамі паэта Генадзя Бураўкіна: «Работа, работа, работа, да зморы, да стомы цяжкой.» На карысьць сваёй Радзіме.

ЖЫВЕ БЕАРУСЬ!

*З жыцьця ў Саўт Рывэры*

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА



*Фота Н. Кудасавай*

*Група мастакоў на выстаўцы.*

У нядзелю 20 сакавіка 1994 г. у Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры, у Саўт Рывэры, Нью-Джэрзі была адчыненая 21-я штогадовая мастацкая выстаўка малюнкаў і ручных вырабаў беларуска-амэрыканскіх мастакоў і умельцаў.

А 2-ой гадзіне па-паўдні выстаўку адчыніла мастачка і кіраўнічка выстаўкі Ірына Дутко. Спадарыня Дутко прывітала гасьцей, падзякавала ўсім мастачкам і мастаком і прадставіла іх. Таксама падзякавала ўсім, хто цяжка працаваў, каб падрыхтаваць і зарганізаваць гэтую выстаўку. Спадарыня Дутко гаварыла па ангельску, а др. Янка Запруднік сказаў па беларуску.

Апрача беларуска-амэрыканскіх мастакоў былі выстаўленыя творы мастакоў зь беларускай Беласточчыны і зь Беларусі, што было вельмі прыемна бачыць і сардэчна вітаць.

Былі выстаўленыя творы розных стыляў, ад натуралістычных да мадэрністычна-імпрэсыяністычных. Гэта паказвае, што беларускія мастакі маюць шырокі дыяпазон стыляў і школаў мастацтва.

Усе малюнкі ёсьць каштоўныя і прыгожыя, адныя больш другія менш, залежыць ад густу й мастацкага ўзроўню гледача. Я ня зьбіраюся крытыкаваць той ці іншы стыль, бо на гэта ня маю мастацкай кваліфікацыі.

Наступныя мастачкі й мастакі выставілі свае малюнкі: Айцец Канстантын Бандарук, Альжбета Андрэюк, Іра Батэрворт, Ірына Рагалевіч-Дутко, Тамара Дутко, Сяргей Крыстаповіч, Надзя Кудасава, Людміла К.М., Алег Махнюк, Таня Місіюк, Віктар Маркавец, Аляксандар Раманоўскі, Галіна Русак, Ст. Тамара, Анатоль Чайкоўскі, Андрэй Такаюк і Івонка Сурвіла.

Былі выстаўленыя гэтаксама цікавыя, арыгінальныя й прыгожыя фатаграфіі мастакоў-фатографаў: Міколы Дутко, Уладзімера Янцэвіча, Анатоля Кляшчука, Алеся Крыстаповіча, Алекса Сільвановіча і Яраслава Віньніцкага. Асабліва каштоўныя і цікавыя былі здымкі з роднай Беларусі.

Наступныя мастакі-умельцы выставілі свае ручныя вырабы: Юля Андрусышына, Вольга Андрэюк, Каця Блюм (Хмура), Люба Бахар, Эва Брынкевіч, Ірына Дутко, Таня Гэтман, Мікалай Грэбень, Валя Камінкова, Зора Кіпель, Надзя Кудасава, Рэня Касьцюк, Ліза Літаровіч, Люда Літаровіч, Алег Махнюк, Люда Махнюк, Марыя Наумчык, Валя Рагалевіч, Хрыстына Урыўская.

Былі тут: вышываны абраз Збавіцеля, абраз Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, крыжы, жаночыя і мужчынскія нацыянальныя беларускія строі, лялькі зь лёну і вышываныя; вышываныя кашулі, блюзкі, краваты, падушачкі; паясы, ручнікі, настольнікі, пасьцілкі; саламяныя куфэркі, скрыначкі; домікі з запалак, качалкі, берда, чаўнок, верацёны, калаўрот, кросны, прасьніца, беларуская кераміка, і шмат, шмат іншых рэчаў.

Ніхто ня мог хутка прайсьці міма-ходзь, толькі кінуўшы вокам, каля рэчаў выразаных з дрэва: конь у поўнай збруі цягне воз, групка мядзьведзяў рознага росту, два кавалі б'юць на зьмену молатамі, гусьлі — проста просяцца, каб на іх нехта зайграў, жанчына вітае з караваем у руках. Усе гэтыя рэчы Алега Махнюка, як магніт прыцягвалі да сябе гледача і кранали пачуцьці. Дай Бог Алегу залатыя рукі і чулае сэрца.

Таксама вельмі прыемна было вітаць маладзенькую Тамару Дутко зь яе прыгожымі малюнкамі. Яна паказвае, што ёсьць жыцьцё па-за кампутарскімі і тэлевізыйнымі скрынкамі. Малюй, дарагая Тамарка, далей, разьвівай свой мастацкі талент бацьком на пацеху і ўсім нам на радасьць.

Наступныя асобы добра папрацавалі, каб падрыхтаваць і зарганізаваць гэтую выстаўку: Ірына Дутко, Надзя Кудасава, др. Янка Запруднік, Тамара і Аляксандар Кольба, Ліза і Лёня Літаровіч, Сяргей Трыгубовіч, Алесь Крыстаповіч, Алекс і Ніна Сільвановічы, — шчырае вам усім дзякуй ад усіх нас гледачоў.

На заканчэньне хачу падзякаваць усім мастачкам і мастакам за іхныя творы — ня спыняйце сваёй мастацкай творчасьці, хоць і ня лёгка ў гэты матэрыялістычны век, пацяшайце ўсіх нас не мастакоў, няхай вам Бог дасьць шмат натхненьня й добрага здароўя на сто гадоў з гакам.

**Міхась Бахар**

---

### ХТО ВЫЯЖДЖАЕ, ХТО ПРЫЯЖДЖАЕ?

Летась зь Беларусі толькі ў Ізраіль выехала каля 2800 асобаў. А ў Беларусь у тым самым часе з рэспублік былога СССР эміўгравала 10442 асобы. Найбольш прыбыло з Латвіі — 2506 чалавек, з Расеі — 1607, Таджыкістану — 1338 і Грузіі — 1085.

Каля палавіны прыбылых — беларусы – 4662, крыху менш – расейцы. (*«Рэспубліка»*, 9.II.94)

*З жыцьця ў Чыкага*

## АЙЦЕЦ А. НАДСОН У ЧЫКАГА

Прыезд айца А. Надсона быў мілай неспадзеўкай, хоць ён і не забываў Чыкага ў мінулыя гады, але цяпер, у гэтыя мітусьлівыя часы на Бацькаўшчыне, тым болей прыемна было яго гасьціць і пачуць весткі з тае стараны.

На зборцы беларускай грамады Чыкага, у чацьвер, 3-га сакавіка а. Надсон шырака распавёў пра свае паездкі на Беларусь і рэлігійную сытуацыю там, пра дзейнасьць беларусаў у Лёндане, пра публікацыю літургічных кніжак на беларускай мове.

Ад некалькі гадоў а. А. Надсон возіць мэдыкамэнты і мэдычныя інструмэнты для шпіталяў у зоне радыяактыўнага забруджаньня ў Гомелі, Хойніках, ды іншых мясцох, дзе лечацца дзеці пацярпеўшыя ад Чарнобыльскай аварыі. Паказаў нам айцец шмат здымкаў, на якіх вобраз хворых дзяцей ды заклапочаных бацькоў наводзіць пачуцьцё вялікага жалю й бездапаможнасьці.

Цікава было пачуць, што Міністэрства Замежных Справаў Вялікабрытаніі і Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі пасьпяхова праводзяць уладкаваньне студэнтаў зь Беларусі на Лёнданскім Унівэрсытэце на час 3-х месяцаў, на па-дыплёмныя студыі.

У нядзелю, 6-га сакавіка ў беларускай каталіцкай Царкве ўсходняга абраду Хрыста Збаўцы а. Надсон, у асысьце а. Я. Сыру адслужыў літургію па-беларуску і часткова па-ангельску, ды сказаў казань, нагадаўшы пра агульную сытуацыю на Беларусі, ды праблемы хворых дзяцей ахвяраў Чарнобылю. У канцы літургіі была адслужаная паніхіда за сьв. памяці Антона Бяленіса, у саракавы дзень пасьля ягонай сьмерці.

Пасьля гэтага ўсе зыйшліся ў царкоўную залю на абед падрыхтаваны парахвіянкамі, у часе якога а. Надсон распавёў па-ангельску аб праблемах на Беларусі.

Увесь прыход ад абеду быў перададзены айцом Я. Сыру айцу А. Надсону на дапамогу дзецям, ахвярам Чарнобыльскай катастрофы.

**Др. Вітаўт Рамук**

---

### ДА ВЕДАМА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ!

У горадзе Лідзе Гародзенскай вобласьці ад 12 да 18 траўня 1994 году адбудзецца Сусьветны зьезд прадстаўнікоў з усіх краінаў, хто лічыць Ліду і Лідчыну сваёй радзімай.

Управа зьезду запрашае ўсіх зацікаўленых прыняць удзел і зьвярнуцца на адрасы:

231300, Беларусь, Гародзенская вобласьць,
горад Ліда, вуліца Кірава, 27
Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны [тэл. 2-48-16 (у Лідзе)]

231300, Беларусь, Гародзенская вобласьць,
горад Ліда, вуліца Фамічова, дом 4-б, кв. 26
Мельнік Міхась, [тэл. 3-27-92 (у Лідзе)]

*Старшыня Лідзкай Рады*
*Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*
*Міхась Мельнік*

---

Беларуска-Амэрыканскі Цэнтр
ў Саўт Рывэры
ладзіць у суботу 14-га травеня сёлета
**ВЕЧАРЫНУ**
Прыход ад імпрэзы прызначаецца
на дапамогу дзецям - ахвярам
ЧАРНОБЫЛЬСКАЕ РАДЫЯЦЫІ

Па інфармацыю зварачайцеся:
Б. Цупрык — 908-613-8456
В. Тур —718-263-9440
С. Наумчык — 908-238-2655

---

### ЗАПРОСІНЫ

Гэтым ветліва запрашаем Вас ушанаваць
Вашай прысутнасьцю ўрачыстасьць
**ПАРАХВІЯЛЬНАГА СЬВЯТА ЖЫРОВІЦКАЙ БОЖАЙ МАЦІ**
ў нядзелю, дня 29-га травеня 1994-га году
Царкоўныя ўрачыстасьці ачоліць Найпачасьнейшы
Мітрапаліт Мікалай,
Першы Герарх БАПЦ у саслужэньні духавенства БАПЦ.
У праграме:
*9:30 гадз. раніцы* — Архірэйская Божая Служба
*1:00 гадз. папаўдні* — абед, прывітаньні
Пасланьне Уладыкі Мікалая.
Праваслаўныя Цэрквы Сьвету, сп. Васіль Русак
Дзейнасьць Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля
ў Беларусі, сп. Аляксандар Сільвановіч
Калі ласка, прыходзьце ўсе й запрашайце Вашых знаёмых.

*а. прат. Васіль Андрэюк*
*Настаяцель Парахвіі,*
*Гайлянд Парк, Н. Дж.* *Парахвіяльная Рада*

## ЦІКАВАЕ, ВАЖНАЕ Й ПАТРЭБНАЕ ДАСЬЛЕДВАНЬНЕ




*«Беларусы ў ЗША». Вітаўт Кіпель, Менск, Выдавецтва «Беларусь 1993. 352 ст. Пераклад з ангельскае мовы Сяргея Шупы.*

Патрэба гэткага дасьледваньня была відавочная й беларускае грамадзтва чакала такого даўно. Дасьледваньне было асабліва патрэбнае ў ЗША, бо значная частка амэрыканскага народу беларускага паходжаньня. Аўтару працы належыць вялікая ўдзячнасьць.

Дасьледваньне складаецца з «Уступу», 16-х разьдзелаў, «Заключэньня», ды «Паказальнікаў: геаграфічнага, іменнага». Д-р В. Кіпель слушна зазначе ва ўступе, што «Беларусы ў ЗША — ня проста назоў кнігі». Гэта новае паняцьце.

Нягледзячы на этнічную разнастайнасьць краіны шмат для каго беларусы — новая рэалія на этнічнай мапе Злучаных Штатаў. Тым ня менш этнічная прысутнасьць беларусаў у Злучаных Штатах Амэрыкі мае больш за стагадовую гісторыю». Прычынаў, што беларусаў ня ведаюць ёсьць некалькі, і аўтар дае гэткія тлумачэньні: «з прычыны несприяльнага зьбегу гістарычных акалічнасьцяў, тэрміналягічнае нявыразнасьці ды імпэрскіх памкненьняў суседзяў, раньнія беларускія іміґранты — беларусы-ліцьвіны — з-за нязначнае колькасьці свае заставаліся незаўважаныя. Большасьць-жа масавае эміґрацыі была залучаная ў бюракратычную рубрыку «расейцаў» у шырокім сэнсе гэтага паняцьця». Ніхто — кажа аўтар — не пытаўся ў іх думкі, што да іхнага самавызначэньня, а самі яны былі ня ў стане запярэчыць. Нават, калі ў іх пыталіся, яны не маглі выразна адказаць з прычыны палітычнага і гістарычнага няведаньня або проста і абыякавасьці да свае мінуўшчыны, да свае этнічнае тоеснасьці. Для рэгістратараў і статыстыкаў сялянеіміґранты зь Беларусі сталіся «расейцамі». Дасьледчык кідае абвінавачаньні бюракратычнаму апарату як расейскае эміґрацыйнае службы, гэтак і чыноўнікам дэпартамэнту іміґрацыі ЗША, што ў часе іміґрацыйнага працэсу, гэтыя бюракраты «зьліквідавалі» цэлую эўрапэйскую нацыю!

Аўтар зазначае, што дзеля зручнасьці й непадрыхтаванасьці эміґрацыйных чыноўнікаў, людзі, што паходзілі зь беларускіх земляў, гаварылі па-беларуску, прывезьлі ў новую краіну беларускія звычаі і традыцыі — рабіліся «расейцамі», «расейскімі эміґрацыйнымі масамі». І аўтар справядліва падкрэсьляе, што сёньня сыцыёлягі, этнолягі й наагул дасьледчыкі эміґрацыі мусілі-б старанна дасьледаваць хімэрычны тэрмін «расеец», які часта сустракаецца ў амэрыканскай даведачнай і сацыялягічнай літаратуры, каб выявіць шматлікія нацыянальнасьці, што хаваюцца за гэтым тэрмінам.

Бяручы гэта на ўвагу, Вітаўт Кіпель дэталёва дасьледуе амэрыканскую літаратуру аб эміґрацыі ды выяўляе ўсё-ж адзнакі беларускасьці эміґрантаў, хоць акрасьляліся яны і не беларусамі. Аўтарам разгледжаныя шмат дзесяткоў англамоўных дасьледваньняў, працы аб эміґрацыі ў славянскіх мовах ды заўвагі аб беларускіх эміґрантах у нешматлікіх беларускамоўных друках. Разьдзел агляду літаратуры аб эміґрацыі вельмі багаты да будзе дапамогай і іншым дасьледнікам беларускае эміґрацыі. Гэты разьдзел заканчваецца аналізам статыстычных працаў і аўтар прыходзіць да высновы, што ў Злучаных Штатах Амэрыкі засталіся на сталае жыхарства паміж 600,000 і 650,000 беларусаў, а з сёньняшнімі нашчадкамі тых эміґрантаў у ЗША пражывае панад 1,000,000 (адзін) мільён амэрыканцаў беларускага паходжаньня.

Затым аўтар дасьледуе прычыны й хвалі беларускае эміґрацыі. Эканоміка краю была асноўнай прычынай эміґрацыі, была, аднак, ў Амэрыку і нязначная палітычная эміґрацыя — задоўга перад другой сусьветнай вайной.

Наступныя разьдзелы кнігі маюць гэткія загалоўкі: *«Расьсяленьне і ўладжаньне на працу», «Першыя кантакты з арганізацыямі й пачаткі нацыянальнае сьведамасьці», «Узьнікненьне і развіцьцё беларускіх арганізацыяў», «Беларускія масы ў міжваенным пэрыядзе», «Дзейнасьць беларусаў у часе другое сусьветнае вайны», «Паваенная хваля беларускае эміґрацыі», «Рэлігійнае жыцьцё й рэлігійныя арганізацыі», «Дзейнасьць беларускіх арганізацыяў», «Беларускія элемэнты ў дзейнасьці левых і правых прарасейскіх групаў», «»Выдавецкая справа. Беларусіка ў сродках масавай інфармацыі», «Беларуска-амэрыканскія дачыненьні», «Роля амэрыканскіх бібліятэк, навуковых і навучальных установаў у прапагандзе беларускае спадчыны», «Сацыяльны партрэт амэрыканскіх беларусаў», «Заключэньне»* і паказьнікі.

Пералік гэтых разьдзелаў паказвае на абсяг дасьледваньня і на вялікую вартасьць як гістарычную, гэтак і інфармацыйную працы «Беларусы ў ЗША». Аўтар сабраў у адно цэлае усю дасюлешнюю беларускую эміґрацыю — масавую, перад Першай сусьветнай вайной, ды палітычную эміґрацыю па Другой сусьветнай вайне, адзначыўшы ды падкрэсьліўшы, што якраз эміґрацыя па другой сусьветнай вайне пачала адражаць беларускую спадчыну ў Амэрыцы, раўналегла праводзячы палітычна-прапагандовую справу адраджэньня Беларускае Дзяржаўнасьці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі.

Доктар Вітаўт Кіпель заканчвае сваё надзвычайнае дасьледваньне гэтак: «Пададзеныя ў працы матар'ялы (пачатковыя й няпоўныя) — сьведчаньні таго, як жыла старая беларуская эміґрацыя, ды што і як рабіла новая іміґрацыя для адкрыцьця, аднаўленьня ды замацаваньня беларуска-амэрыканскае спадчыны, як спадчыны Беларусі й пашырэньня ў Амэрыцы ідэі незалежнае беларускае дзяржаўнасьці. Паўнейшае вывучэньне беларускае дыяспары, як у ЗША, гэтак і ў цэлым сьвеце (тут рэцэнзэнт поўнасьцю падтрымвае думку аўтара кніжкі!) павінна быць распачатае на бацькаўшчыне і дзейнасьць ды здабыткі беларускае эміґрацыі павінны быць улучаныя ў агульны кантэкст развіцьця беларускае нацыі і культуры».

Трэба таксама падкрэсьліць, што вельмі важна, што гэтая праца выйшла на бацькаўшчыне, пры друку працы выкарыстаны правапіс «Тарашкевіцы» ды ў працы ўзялі удзел таксама маладыя навукоўцы зь Беларусі: выдатны пераклад, рэдагаваньне й кампютарны набор С.А. Шупы, рэпрэзэнтацыйныя, жывыя й удалыя фатаграфіі А. Кляшчука, мастак В. Латышоў, рэдактар выдавецтва «Беларусь» — Г. Пармон ды іншыя, а таксама ко-спонсар-выдавец Нацыянальны Навукова-асьветны Цэнтар імя Францішка Скарыны ў Менску.

**Віктар Сянькевіч**

## ВЫСТАВА СТ. ТАМАРЫ



У галярэі *2-nd Crossing Gallery* у Валлей Сіты у штаце Норт Дакота адбылася солё-выстава Ст. Тамары (Тамары Стагановіч-Кольбы). Выстава адбывалася ад 7-га да 26-га студзеня, а, пазьней, на запросіны галярэі, прадоўжылася да 1-га лютага сёлета.

На выставе былі паказаныя карціны (алей, акрылік), рысункі, літаграфія ды гравюры. Шмат з карцінаў былі натхненьнем з падарожжаў мастачкі па Паўднёва-Заходніх мясьцінах Амэрыкі.

Творы Ст. Тамары былі ўжо раней выбіраныя некалькі раз гэтай галярэяй на *Bienial National Juried Exhibitions* у 1993, 1987, 1981 і 1979 гадох.

У газэце Times-Record за 11-га студзня сёлета, у сваім артыкуле Джін Шлегель піша, што Ст. Тамара народжаная ў Навагрудку, Рэспубліка Беларусь. У біяграфічнай частцы зазначае пра адукацыю мастачкі, пра яе выставы, якія яна пачала ад 1956 году, таксама пра нагароды за яе мастацкія творы. Крытык зазначыла гэтаксама што Ст. Тамара ілюстравала ды пісала дзіцячыя кнігі.

«Я разглядаю прыроду, як рэлігійнае ушчуваньне і лічу падмуркам майго мастацкага натхненьня..., я веру у найвялікшую прыгажосьць прыроды... і я шчасьлівая быць часткай гэтай прыроды», — кажа мастачка, і гэта яскрава адлюстроўваецца ў ейных творах.

Ст. Тамара ўпісаная ў даведніках *Who's Who in American Art* і *Who's Who of American Women.*

## БЕЛАРУСІКА Ў КВІНСКІМ КАЛЕДЖЫ

Прафэсар Томас Бэрд, выкладчык Квінскага Каледжу Гарадзкога Ўнівэрсытэту Нью-Ёрку, у сваім курсе пра старажытнарускую літаратуру гаворыць і пра творы Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага і Сымона Полацкага, як частку вытокаў сучаснай беларускай літаратуры.

Праф. Т. Бэрд займаецца распрацоўваньнем гісторы царквы на Беларусі. Ён — рэдактар «Запісаў» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

## ВЫСТАВА ГАЛІНЫ РУСАК



Ад 30-га красавіка да 21-га траўня сёлета, у галярэі SOHO 20, 469 Broom Street, у Нью-Ёрку адбудзецца выстаўка Галіны Русак *СЫМБАЛЬ ЖЫВУЧАСЬЦІ, 994-1994; галоўныя падзеі ў разьвіцьці новай Усходне-Эўрапейскай Дзяржавы Рэспублікі Беларусь.*

Аснова выстаўкі — адзінасьць мэты і тэмы, а не адзінасьць стылю. Мастачка, пры дапамозе іканаграфічнай мовы, інтэрпрэтуе крытычныя падзеі ў разьвіцьці Беларусі ад паганскіх пачаткаў да сяньняшніх часоў.

Мэта выстаўкі — узбудзіць зацікаўленьне да Беларусі, яе гісторыі й народу.

Кожная праца на выстаўцы улучае паясьняльнае апісаньне або адпаведную паэму.

Адчыненьне й прыняцьцё адбудзецца ў суботу, 30-га красавіка ад 3-яй да 6-ай гадзіны па-паўдні. Усе сардэчна запрашаюцца.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз галярэю SOHO 20, тэл. (212) 226-4167.

## ПАДЗЯКА

**З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. А. Маркевіч, М. Швэдзюк, А. Міцкевіч, Ю. Кіпель, Я. і І. Сурвілы, В. Рамук.**

## ПРА ПАСЛА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ С. МАРТЫНАВА І НЕНАДЗЕЙНАСЬЦЬ ЯДЗЕРНАЙ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІІ

Амэрыканская газета Staten Island Advance (5.II/94) пасьля наведаньня паслом Беларусі Сяргеем Мартынавым абтоку Статэн-Айленд, які становіць частку гор, Нью-Ёрку, у рэдакцыйным артыкуле дала даволі падрабязную характарыстыку пасьля чарнобыльскага палажэньня на Беларусі. Артыкул канчаецца гэткім зазначэньнем:

«Прамыслоўцы ядзерных электрастанцыяў увесь час цьвердзяць, што ядзерная электраэнергія бясьпечная, чыстая і эфэктыўная, і здолелі перакапаць у гэтым шмат якіх урадаўцаў. Але пакуты Беларусі і жудасная, на тысячу гадоў спадчына Чарнобыля сьветчыць пра адваротнае. Нам здаецца, што калі-б прамыслоўцы хацелі даказаць верагоднасьць сваіх цьверджаньняў, яны зрабілі-б вялікія інвэстыцыі ў справу рэстаўрацыі навакольля ў Беларусі. Датуль, пакуль на Беларусі будзе бяда й роспач, спрычыненая ядзернай энэргіяй, на ядзерную электраэнергію трэба глядзець з падазраньнем».

Тая-ж газэта ў сваім выпуску з 3-га лютага сёлета зьмясціла вялікі ілюстраваны рэпартаж пра наведаньне адное зь сярэдніх школаў у Статэн-Айлендзе сп. С. Мартынавым, якога суправаджала ў падарожжы ягоная жонка Маргарыта.

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ЗЬ БЕЛАРУСІ У НЬЮ-ЁРКУ Й НЬЮ-ДЖЭРЗІ

У канцы сакавіка сёлета дэлегацыя ў складзе 46-х асобаў з розных будаўляных фірмаў Рэспублікі Беларусь наведала Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі з мэтай азнаямленьня стану будовы гарадзкіх селішчаў у Ньюарку (найбольшы горад у штаце Нью-Джэрзі) і ў горадзе Нью-Ёрк. Правадніком дэлегацыі была сп. Ларыса Валошына, прэзыдэнт будаўлянае карпарацыі ў горадзе Сікаўкусе, Нью-Джэрзі. Наведваючы вялікія шматпавярховыя й шматкватэрныя будынкі, дзе жыве пераважна жыхарства зь меншымі даходамі (г.зв. амэрыканскія «прожэктс») амэрыканскія інжынеры казалі сваім калегам зь Беларусі, што ня гледзячы на выгады іх пабудовы-хутчыня й пераважна меншыя кошты — з дасьветчаньня ведама, што гэткія селішчы не апраўдваюць сябе: яны хутка нішчацца і робяцца няпрыгоднымі да ўжытку. «Мы ня раім Вам — казалі амэрыканцы беларускім будаўнікам — будаваць вялікія дамы. Будуйце лепш меншыя — малакватэрныя». Ці прымуць беларусы амэрыканскія парады — цяжка сказаць.

## НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў АЎСТРАЛІІ

На Беларускія праграмы ў Пэрце, у Заходняй Аўстраліі ахвяравалі спадарства Ванда і Піліп Дарэўскія — 100 аўстр. даляраў.



## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Джэрзі:*

| | |
|---|---|
| В. Заморская | ам. дал. 100 |
| А. і Л. Дубовік | 50 |
| У. і Н. Русак | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| Б. Даніловіч | 25 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| М.Б. | 20 |
| А. Шукелойць | 20 |
| К. Мярляк | 20 |
| Ю. Андрусышына | 20 |
| Л. Норык | 20 |
| В. Тур | 20 |
| Я. Азарка | 29 |
| М. Абрамчык | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| Л. і Н. Сагановіч | 20 |
| а. В. Андрэюк | 10 |
| Я. Каханоўская | 10 |
| А. Субота | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| Ю. Стагановіч | 10 |
| ананімна | 10 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| С.М. | 100 |
| М. Тулейка | 50 |
| П. Кулеш | 50 |
| В. Валаткевіч | 50 |
| Др. Я. Сажыч – замест кветак на магілу сьв. пам. Антона Бяленіса | 50 |
| Л. Кавалёў | 40 |
| П. Скепка | 40 |
| Б. Русак | 40 |
| В. Пеляса | 30 |
| Я. Місюль | 30 |
| С. Мажэйка | 30 |
| М. Касьцюк | 30 |
| М. Русак | 30 |
| Р. Галяк | 30 |
| М. Грэбень | 30 |
| В. Пашкевіч | 25 |
| А. Даніловіч | 25 |
| А. Занковіч | 25 |
| Х. Барасавец | 25 |
| А. Максімюк | 25 |
| Б. Бабіцкі | 25 |
| В. Кабушка | 25 |
| С. Грамыка | 25 |
| С. Жамойда | 25 |
| Разам | 855 |

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Г. Руднік | ам. дал. 100 |
| М. Рагуля | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Л. Мурог | 75 |
| У. Сітнік | 50 |
| І. Каханоўская | 50 |
| В. і Л. Кажан | 50 |
| К. і Я. Вініцкія | 30 |
| С. Буткевіч | 26 |
| В. Шчэцька | 25 |
| С. і Н. Дудар | 25 |
| А. Гурын | 5 |

*З Мэлбурн, Аўстралія (ліста Г. Шэйпака)*

| | |
|---|---|
| В. і Г. Шэйпак | аўстр. дал. 100 |
| праф. С. Каранеўскі | 95 |
| Спадарства Кукель | 70 |
| З. Кадняк | 50 |
| Сп. Лашук | 50 |
| М. Нікан | 50 |
| Сп. Яшчанка | 50 |
| М. Швэд | 50 |
| А. Груша | 50 |
| П. Гуз | 45 |
| Я. Стасевіч | 45 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| Л. Яцэвіч | 40 |
| М. Барысэвіч | 35 |
| В. Каралюк | 35 |
| В. Груша | 20 |
| За прадажу газэтаў | 30 |
| Разам | аўст. дал. 855 |

Каб газэта існавала —
Дваццаць пяць цяпер замала,
Дык давайце, мае братцы,
Будзем слаць па пяцьдзясятцы.
Каму грош лягчэй прыходзе —
То і сотка не зашкодзе.
Усіх ад сэрца заклікаем:
Памажэце — мы чакаем.

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам
і прадстаўніком — шчыры дзякуй.

**Адміністрацыя «Беларуса»**

УВАГА! УВАГА!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

*Адміністрацыя*

**НОВАЯ ФОРМА АДРАСУ «БЕЛАРУСА»!**

Калі ласка, запішэце сабе новую форму адрасу газэты «Беларус»:

**Bielarus**
**P.O. Box 310178**
**Jamaica, NY 11431-0178**

***Падпішэцеся на газэту «Беларус» для суродзіча на Бацькаўшчыне.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| А. Маркевіч | ам. дал. 200 |
| Беларусы Бэльгіі (праз Я. Жучку) | 50 |
| Сабрана 25 сакавіка ў Нью-Брансуіку А. Суботам | 90 |
| М. Бахар | 25 |
| Л. Трусэвіч | 25 |
| Л. Мурог | 20 |
| Я. Чорны | 16 |
| У. Машанскі | 10 |

*На выданьне кнігі аб Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне ахвяравалі:*

Абмежаваная колькасьць падпісаных аўтарам і пранумараваных кніжак пакідаецца для асобаў, якія ахвяруюць 100 ам. даляраў і болей.

| | |
|---|---|
| Ш. Сямёнава | ам. дал. 300 |
| У. Ракуць | 200 |
| Л. Трусэвіч | 125 |
| Я. і О. Шыкалюкі | 100 |
| У. Набагез | 100 |
| К. і Я. Вініцкія | 100 |
| Ю. Андрусышына | 50 |
| М. Грэбень | 25 |
| Л. Мурог | 75 |
| К. і М. Верабей | 25 |
| А. Шукелойць | 50 |